

# Мазырскія Навіны

*Гавары - і цябе пачуюць*

**люты, 2013**

**www.mozyrcivil.org**

ГРАМАДСКАЕ ІНФАРМАЦЫЙНАЕ ВЫДАННЕ

# Дапамог адзінокаму пенсіянеру? Заплаці штраф!



Міліцыянты выпісалі кару жыхарам Мазыра за тое, што яны прыехалі дапамагчы ветэрану вайны, які жыве ў адселенай вёсцы ў радыяцыйнай зоне Нараўлянскага раёна. Гэта на паўночным усходзе Беларусі, на Мазырскім Палессі.

Адам Рагавец добра вядомы ў Мазыры. Ён часта грае на гармоніку ў цэнтры горада, ля ўваходу на рынак. Яму пад 90 гадоў, прайшоў вайну, жыве адзін у адселенай вёсцы. Ніякіх выгод у хаце няма. Нават электрычнасць вымкнулі паводле пастановы мясцовых улад. Іншых жыхароў у вёсцы таксама няма.

Жыхары Мазыра 27 студзеня наведалі Рагаўца ды прывезлі прадукты і абутак. Яны збіраліся таксама ўцяпліць дом і насекчы дроваў.

Каб сабраць больш патрэбнага, людзі стварылі форум на гарадскім сайце. Пасыпаліся прапановы дапамогі. Чарговы выезд да Рагаўца быў прызначаны на 3 лютага. Але прыехаўшы чарговы раз у закінутую вёску, валанцёры ўбачылі там міліцэйскі УАЗік. Ля дома ветэрана гасцей сустрэлі супрацоўнікі міліцыі. Угледзеўшы ў хлопцах небяспечных правапарушальнікаў, супрацоўнікі міліцыі забралі двух з іх у Нараўлянскі РАУС. Там на затрыманых склалі пратаколы паводле часткі 2 артыкула 16/03 КоАП Беларусі «Парушэнне патрабаванняў рэжыму радыяцыйнай бяспекі ў мясцовасцях, якія падпалі пад радыеактыўнае забруджванне».

Суд над маладымі людзьмі, адзіным злачынствам якіх было жаданне дапамагчы самотнаму ветэрану вайны, пройдзе ў Мазыры бліжэйшымі днямі.

http://spring96.org/

Нараўлянскі раённы суд аштрафаваў 14 лютага **на 1 мільён рублёў** мазырскіх валанцёраў Леаніда Апалоніна і Яўгена Пракапчука, якія дапамагалі пенсіянеру ў выселенай пасля Чарнобылю вёсцы Белы Бераг.

Валанцёры прызнаны вінаватымі ў парушэнні рэжыму радыяцыйнай бяспекі ў мясцовасцях, якія падпалі пад радыеактыўнае забруджванне.

Пракапчук: “Мне позва ў суд не прыйшла. Я проста паехаў у Нароўлю падтрымаць Леаніда. Калі ў судзе даведаліся, што я таксама прыехаў, то разгледзелі адміністрацыйны пратакол і ў дачыненні да мяне”.

Як мы паведамлялі, пра самотнага пенсіянера Адама Рагаўца з вёскі Белы Бераг Яўген Пракапчук даведаўся з відэасюжэту ў інтэрнэце. Вырашыў з хлопцамі зрабіць добрую справу – дапамагчы чалавеку. Сабралі харчы, цёплую вопратку, лекі першай неабходнасці, набылі запоўнены газавы балён, інструменты для рамонту грубы і паехалі.

Машыну пакінулі на дарозе, а самі пайшлі да старога. Праз гэтую машыну міліцыянты і выявілі наведнікаў. Яны прымусілі валанцёраў ехаць у Нароўлю, дзе склалі ў дачыненьні іх пратаколы паводле часткі 2, артыкулу 16.3 Кодэксу адміністрацыйных парушэнняў.

З міліцыі мазырскія валанцёры выправіліся назад у Белы Бераг, каб усё-ткі даставіць Адаму Рагаўцу неабходныя харчы, вопратку і газавы балён для пліты. Заадно падрамантавалі грубку, уцяплілі вокны.

Яўген Пракапчук паведаміў таксама, што аспрэчваць мільённыя штрафы ён з Леанідам не наважаны. Але яны не збіраюцца пакідаць Адама Рагаўца ў самоце – будуць спрабаваць атрымаць пропуск у радыяцыйную зону.

На канфліктную сытуацыю, якая ўзнікла паміж валанцёрамі з Мазыра і ахоўнікамі зоны радыяцыйнага забруджвання Нараўлянскага раёна, адрэагавала абласная міліцыя. У паведамленні яе прэс-службы было сказана, што 87-гадовы Адам Рагавец з адселенай пасля Чарнобылю вёскі Белы Бераг, “адзінокім не з’яўляецца, бо ў яго ёсць дарослыя дзеці, якія, паводле заканадаўства, абавязаны яго даглядаць”.

Тым часам прадстаўнікі адміністрацыі зон адсялення і адчужэння заяўляюць, што нанова выселяць Адама Рагаўца з Белага Берагу, паколькі вярнуўся ён сюды ў 2004 годзе незаконна.

**Аляксей КЛІМОВІЧ**

## Вынесен приговор мозырской группировке охранников-грабителей

В Мозырском районном суде первой инстанции сегодня вынесен обвинительный приговор мозырской группировке охранников-грабителей, сообщили корреспонденту БЕЛТА в прокуратуре Гомельской области.

Как отмечается в материалах расследования, эта преступная группа действовала в Мозыре более трех лет. Пятеро ее членов были задержаны в конце 2011 года. Им предъявлено обвинение в грабежах, вымогательстве и хулиганстве. Злоумышленниками оказались работники службы охраны одного из ночных клубов города.

Охранники нападали на клиентов в тот момент, когда те покидали ночной клуб. Грабители отнимали у гостей заведения ценные вещи и деньги, используя электрошокер и применяя физическую силу. В общей сложности по уголовному делу проходит 19 потерпевших.

Сегодня в Мозырском районном суде завершилось заседание по данному уголовному делу. Первая судебная инстанция приговорила обвиняемых к отбыванию наказания в исправительных учреждениях различного типа сроком от 3 до 7 лет в зависимости от содеянного. В течение десяти дней приговор может быть обжалован.

Елена Сафронова - БЕЛТА

## Швэйк вяртаецца ў Мазыр раней за Балаховіча



Швэйк

**У Мазыры пры падтрымцы афіцыйнай прэсы разгортваюць прапагандысцкую кампанію, каб паставіць помнік салдату Ёзэфу Швэйку – літаратурнаму пэрсанажу, герою знакамітага рамана Яраслава Гашка “Прыгоды бравага салдата Швэйка”. Таго самага, якога “мэдычная камісія прызнала ідыётам”, але якога ў складзе чэскага корпусу выправілі на фронт бараніць Аўстра-Вугорскую й Германскую імпэрыі ў вайне з Расейскай імпэрыяй.**

Да Мазыра салдата Швэйка, які пасьпеў трапіць у расейскі палон, “давёў” другі чэскі пісьменьнік, фэльетаніст і журналіст **Караль Ванэк**. Ён працягнуў гісторыю дасьціпнага ваяра-чэха ў кнізе “Прыгоды бравага салдата Швэйка ў расейскім палоне”. З гэтай прычыны і ўздымаецца пытаньне пра помнік Швэйку ў Мазыры – накшталт таго, які ўжо паставілі ў Кіеве.

Грамадзкі актывіст з Мазыра **Ўладзімер Целяпун** лічыць, што перш чым усталёўваць помнікі літаратурным пэрсанажам, варта было б падумаць пра рэальных асобаў. У Мазыры, напрыклад, няма помніка ні Івану Мележу, ні Івану Шамякіну, хоць імя апошняга носіць Мазырскі дзяржаўны пэдунівэрсытэт.



Ўладзімер Целяпун

**Целяпун**: “Не пашкодзіла б падумаць і пра ўсталяваньне помніка генэралу **Станіславу Булак-Балаховічу** – першаму генэралу Беларускай Народнай Рэспублікі”.

У Мазыры ў лістападзе 1920 году генэрал Булак-Балаховіч абвясьціў пра аднаўленьне ўлады БНР і роспуск ураду БССР. 14 лістапада генэрала абвясьцілі галоўнакамандуючым узброеных сілаў.

Дарэчы, сёлета 10 лютага споўнілася 130 гадоў з дня народзінаў Станіслава Булак-Балаховіча – змагара за незалежнасьць Беларусі.

<u>Нас предупреждалі...</u>

## На каждого белоруса приходится уже 3200$ долга

В следующем году Беларусь столкнется с трудностями, которых у нее никогда не было.

Руководитель аналитического центра «Стратегия» Леонид Заико прокомментировал «Радыё Свабода» подписание закона о бюджете на 2013 год.

«Подписал и подписал. Там прирост ВВП на 8%, инфляция меньше 20%. Это все - нереально. Потому что в следующем году Беларусь столкнется с тем, чего у нее никогда не было. **Надо выплатить три миллиарда долларов по долгам.** А это - аж 10 «Алмазов»! Я имею в виду, что за эти деньги можно построить около десятка таких национальных библиотек, которая возведена в Минске.

**Поэтому и цены поднимаются и будут подниматься. Подняли на алкоголь, на молоко и хлеб. Что это означает?** Означает, что денег будет не хватать. Россияне перекрыли кислород с нефтью. Говорят: верните нефтепродукты. А это еще два с половиной миллиарда минус.И возникает вопрос, **как будете возвращать долги, из каких ресурсов?** Ответа на этот вопрос нет. В бюджете этом **на каждого жителя Беларуси 3200 долларов долга. На семью из четырех человек - 12800 долларов долга** уже на сегодняшний день», - сказал экономист.

Напомним, 26 октября правитель одобрил бюджет на 2013 год и подписал соответствующие документы.



*Белорусский диктатор зарабатывает огромные деньги на перепродаже продуктов нефтепереработки, в то время, как жители страны живут в бедности*

# Дэвид Кремер: Лукашенко привел Беларусь к экономической катастрофе

***В проблемах страны виноват лично белорусский правитель.***

Россия рассчитала в какое время лучше всего предоставить кредит Беларуси для того, чтобы восстановить свое влияние в этой стране, - пишет глава Freedom House в журнале New Eastern Europe (перевод - charter97.org). Эта сделка может омрачить надежды Запада на демократические реформы в Беларуси.

После почти двух десятилетий пребывания у власти авторитарный лидер Александр Лукашенко привел Беларусь на грань экономической катастрофы в 2011 году с коллапсом национальной валюты, инфляцией и сокращеним валютных резервов. Экономическая бесхозяйственность в сочетании с политическими репрессиями, снизила поддержку Лукашенко среди белорусов в сентябре прошлого года до рекордно низкого уровня. Согласно опросу, проведенному Олегом Манаевым из минского Независимого института социально-экономических и политических исследований, она составляла около 20 процентов.

Проблемы у Лукашенко начались после президентских выборов 2010 года, которые были не признаны из-за мошенничества и фальсификаций, и жестокого подавления протестов. До этого Лукашенко удавалось избегать ответственности за ограничение политических свобод и сохранять экономическую стабильность в стране. Но падение стоимости белорусского рубля, пустые полки магазинов, снижение реальной заработной платы и рост цен на товары первой необходимости привели к тому, что население стало обвинять в проблемах правительство и лично Лукашенко. В 2011 году белорусский правитель стоял перед тяжелейшим кризисом и многие наблюдатели считали, что дни «последнего диктатора Европы» сочтены. Как показывает история, на это может понадобиться больше времени. Россия предложила Лукашенко «сделку с дьяволом», от которой он не мог отказаться, если хотел остаться у власти.

В ноябре прошлого года состоялась сделка, которой Лукашенко давно сопротивляется. Русский «Газпром» приобрёл государственные активы компании «Белтрансгаз» за 2,5 миллиарда долларов. Кроме того, Москва предлагает Минску 10 миллиардов долларов на постройку АЭС и предоставляет Беларуси скидки на газ. Для тогдашнего премьер-министра России Владимира Путина это стало еще одним шагом в продвижении своей идеи создания Евразийского союза. Беларусь также представляет собой защиту для России со стороны Запада. Кроме того, россияне начинают получать контроль над белорусскими банками и СМИ. В краткосрочной перспективе русские инвестиции и кредиты помогли Беларуси избежать полного экономического краха и стали временным спасательным кругом для Лукашенко. Но цена, которую руководитель страны заплатил за это могут вызвать еще большее недовольство среди элиты и населения Беларуси.

Финансовый кризис Беларуси зарождался давно, начиная с приходом Лукашенко к власти в 1994 году. Вместо того, чтобы начать политическую либерализацию, провести экономические реформы и приватизацию, как в других странах Центральной и Восточной Европы после падения Советского Союза, Лукашенко сохранил коммунистическую систему. Экономика Беларуси контролируется государством, что привело к ее неустойчивости в долгосрочной перспективе. Лукашенко пытается сохранить свою власть любыми средствами, авторитарный стиль правления усиливает коррупцию. Он согласился заплатить Путину за помощь в предотвращении протестов, но цена этой помощи слишком велика.

Лукашенко пытался наладить отношения с Западом. В 2008 году, после того, как были введены экономические санкции, были освобождены политические заключённые. Лукашенко дал понять, что при условии финансовой помощи, он будет готов к реформам, и Запад, особенно Европейский союз, попался на эту удочку и начал развивать



отношения с этим изгоем. Международный валютный фонд предоставил 2,5 миллиарда долларов в виде экстренного займа в начале 2009 года. Вместо использования этих средств для реструктуризации и либерализации экономики, Лукашенко потратил их на искусственное поддержание созданной им системы и повышение зарплат и выплат перед выборами.

ЕС попытался использовать возможность для поощрения реформ, приглашая принять участие Лукашенко в первом Саммите Восточного партнерства. Разговоров о санкциях больше не было.

Инициатива Восточного партнерства появилась в 2009 году, хотя менее чем за год до этого белорусский режим был объектом санкций. Играя на желании Запада по продвижению прав человека в Беларуси, Лукашенко начал торговлю политзаключёнными. Он сначала сажал их в тюрьму, а затем выпускал в качестве жеста доброй воли и прогресса, получая вознаграждение за это.

Возможность получения финансовой помощи в обмен на очевидные признаки прогресса в Беларуси была и в 2010 году. Проведение президентских выборов в соответствии с международными демократическими стандартами считалось ключевым тестом – Беларусь могла получить миллиарды долларов европейской помощи в случае их достойного проведения. Увы, как мы все знаем, Лукашенко не воспользовался этой возможностью.

**Сьюзан Корк**, *директор программ Евразии Freedom House*
**Дэвид Кремер**, *президент Freedom House.*

# Станіслаў Булак-Балаховіч. Жыцьцё і змаганьне




**Станіслаў Булак-Балаховіч**, адзін зь лідараў узброенага супраціву бальшавікам у Беларусі, нарадзіўся 130 гадоў таму — 10 лютага 1883 года. **Станіслаў Булак-Балаховіч** служыў у расейскім войску, дзе атрымаў чын генэрала, пасьля ўдзельнічаў у барацьбе з бальшавікамі на баку «белых».

У лютым 1920 года ён зьвярнуўся да кіраўніка Польшчы Юзафа Пілсудзкага з просьбай прыняць яго на службу для вайны з савецкай Расеяй. Пасьля атрыманьня згоды **Булак-Балаховіч** са сваім атрадам прыбыў у Даўгаўпілс (Дзьвінск), дзе быў урачыста прыняты знакамітым польскім генэралам**Эдвардам Рыдз-Сьміглы.**
Адразу ж пасьля прыбыцьця ён пачаў фармаваць сваё войска з дабраахвотнікаў. У чэрвені 1920 года дывізія **Булак-Балаховіча** ўступіла ў баі з бальшавікамі. 30 чэрвеня яна нанесла цяжкую паразу чырвоным часткам у раёне Славечны. 3 ліпеня балахоўцы атакавалі Вяледнікі, захапіўшы штаб брыгады. Падчас баёў генэрал практыкаваў сваю любімую тактыку партызанскага бою.
Пасьля заключэньня ў 1920 годзе перамір'я паміж Масквой і Варшавай генэрал далей наносіў удары з тэрыторыі Польшчы па бальшавіцкіх войсках у Беларусі. Савецкі ўрад накіраваў пратэст, і польскі Сэйм запатрабаваў раззбраеньня ягонага войска.

**Булак-Балаховіч** адмовіўся выканаць патрабаваньне і перайшоў савецка-польскую мяжу. Плян генэрала быў просты — падняць сялянскае паўстаньне і скінуць савецкую ўладу. Цягам двух дзён ягоныя войскі занялі тэрыторыю беларускага Палесься ад мяжы з Польшчай да Петрыкава. 9 лістапада 1920 кавалерыйская дывізія палкоўніка**Сяргея Паўлоўскага** разьбіла чырвоных пад Раманаўкай. Палкоўнік **Мацьвееў** заняў Скрыгалаў. Пераможны паход балахоўцаў скончыўся узяцьцем Мазыра 12 лістапада 1920 г.

За некалькі дзён да гэтага на ўрачыстым парадзе сваіх войскаў у Тураве**Булак-Балаховіч** разгарнуў бел-чырвона-белы сцяг і пакляўся не складаць зброі, пакуль не вызваліць родны край ад савецкіх войскаў. У Мазыры ён абвясьціў аб аднаўленьні ўлады БНР і роспуску ўраду БССР. 14 лістапада генэрала абвясьцілі галоўнакамандуючым узброеных сілаў.

Бальшавікі перакінулі вялікія сілы з цэнтральнай Расеі. Толькі дзякуючы велізарнай колькаснай перавазе яны здолелі дамагчыся пералому на фронце.

У ноч на 18 лістапада **Булак-Балаховіч** быў вымушаны пакінуць Мазыр. Зь вялікай цяжкасьцю ён здолеў прабіцца да польскай мяжы. У Польшчы ягоныя войскі былі інтэрнаваныя і раззброеныя. Асобныя атрады працягвалі ўзброены супраціў на тэрыторыі Беларусі.

Савецкі ўрад запатрабаваў ад Пілсудзкага выдачы генэрала Балаховіча, аднак ён адмовіўся зрабіць гэта. Пасьля акупацыі Польшчы ў 1939 годзе нямецкімі войскамі Булак-Балаховіч спрабаваў арганізаваць партызанскі атрад дзеля барацьбы з акупантамі. Ён быў забіты ў Варшаве 10 траўня 1940 года нямецкім патрулём. Месца пахаваньня **Балаховіча** невядомае.



*Атрад Булак-Булаховіча*

*Мазырскія* **НАВІНЫ**
ГРАМАДСКА-ІНФАРМАЦЫЙНАЕ ВЫДАННЕ
Наклад 299 асобнікаў
Эл. адрас рэдакцыі: mazyrcivil@gmail.com